Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

11 (571) 17 сакавіка 2011 года

Кошт свабодны.

Расонскі раён

# Растуць на панадворку ... ваўкі

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам і ў Беларусі шпаркімі тэмпамі развіваецца ва ўсіх рэгіёнах, і асабліва на Віцебшчыне, аграэкатурызм.**

У Прыдзвінні цяпер дзейнічае ўжо больш за 320 аграсядзіб на прыродзе, і толькі за мінулы год колькасць іх наведвальнікаў вырасла амаль у 2 разы. Сярод лідараў у гэтай сферы Расонскі раён, дзе працуе ўжо некалькі гадоў адна ўнікальная. Яе гаспадар Дзмітрый Шамовіч гадуе на сваім хутары трох маладых ваўкоў, якія прыжыліся ў спецыяльным вальеры. Ён сам прафесійны біёлаг, займаецца вывучэннем дзікіх жывёлін, рыхтуе дысертацыю. На яго сядзібу штогод прыязджаюць па 5-7 груп гасцей з далёкага замежжа. Яны з задавальненнем з дапамогай такога прафесійнага гіда могуць па паўмесяца назіраць за багаццем некранутага цывілізацыяй лесу, верхавых балот. Замежныя турысты атрымліваюць асалоду ад адзінства з дзікай прыродай, ім цікава назіраць за паводзінамі не толькі ваўкоў, але і іншых лясных жывёлін і за птушкамі - цецерукамі, курапаткамі, арламі і совамі. Дарэчы, ваўкі лічаць Дзмітрыя сваім важаком, падпарадкоўваюцца яму, перыядычна гуляюць свабодна па лесе. Яго аграсядзіба таксама добра вядома і замежным тэлекампаніям, тут праводзіліся здымкі шэрагу навукова-пазнавальных відэафільмаў.

Пастаўскі раён

# Лячыць зубы– у Паставы

■ Станіслаў Раманчук

**Ужо ў наступным годзе ўслед за Глыбокім сваяя буйная стаматалагічная паліклініка павінна з'явіцца і ў суседніх Паставах.**

Такі медыцынскі аб'ект вельмі патрэбны людзям, і гэту ідэю падтрымалі на абласным узроўні. Немалаважна, што для гэтай спецыялізаванай клінікі не прыйдзецца нават будаваць памяшканне. У цэнтры горада па суседстве з цудоўным помнікам архітэктуры, касцёлам св. Антонія Падуанскага размяшчаўся пустуючы былы адміністрацыйны корпус завода радыёкампанентаў "Беліт". Потым завадчане перабраліся ў новае памяшканне, а мясцовае кіраўніцтва выдзеліла частку памяшкання з некалькімі паверхамі для прыхаджан храма. Мясцовы касцёл размясціў у ім свой музей, бібліятэку хрысціянскай літаратуры, пакоі для сустрэч моладзі і заняткаў па рэлігіі для дзяцей. Пры храме будзе і спартыўная зала. А вось на астатняй частцы будынка стануць гаспадарыць медыкі. Цяпер вядуцца праектныя работы.

Месца ў новай паліклініцы павінна хапіць для ўсіх стаматолагаў рознага профілю. Як і ў суседзяў, плануецца аказваць пацыентам шырокі спектр паслуг па лячэнні зубоў і зубапратэзаванні прама на месцы. Паколькі райцэнтр уваходзіць у прыгранічную зону з Літвой, тут разлічваюць і на прыток грамадзян з суседняй краіны ЕС у рамках аблегчанага рэжыму прыгранічнага руху. Стаіць задача зрабіць гэтыя паслугі даступнымі для большай колькасці людзей.

Полацкі раён

# Вечарыны, як у продкаў

■ Чэслаў Якубовіч

**Прыкладам для ўсёй вобласці і нават краіны Полацкі раён стаў тады, калі тут пачалі наладжваць арыгінальныя мерапрыемствы выхаднога дня на еўрапейскім узроўні.**

На полацкай зямлі прыжыліся спаборніцтвы грыбнікоў, аматараў парылкі, сямейных пар. Напярэдадні свята вясны тут упершыню правялі ў аграгарадку Кушлікі сапраўдныя вечарыны з нацыянальным каларытам. За ідэю ўзялі падобныя традыцыі продкаў, калі моладзі было багата і яна весела і змястоўна бавіла свой вольны час. На гэты раз сабраліся разам два дзясяткі маладых сем'яў. Пасля знаёмства за піццём чаю яны ўдзельнічалі ў розных забаўляльных конкурсах, спявалі і танцавалі. Настрой сабраўшымся стваралі і лепшыя мясцовыя артысты. Такія сустрэчы ў нефармальнай абстаноўцы ў наш дынамічны час вельмі патрэбныя. Большасць суайчыннікаў пасля працы, па сутнасці, замыкаецца ў сваіх дамах і кватэрах, ім не хапае часу ні сябе паказаць, ні другіх паглядзець. Вось гэту тэндэнцыю выравшылі памяняць на Полаччыне. Без сумнення, такія вечарыны толькі паслужаць умацаванню сямейных устояў. Беларусы і ў глыбінцы ў стане весела і цікава жыць, калі яны разняволеныя і атрымліваюць неабходны адпачынак для душы.



# Лічба нумара

**60%** такім вызначаны ў праекце Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011-2015 гады ўзровень замяшчэння затрат насельніцтва на паслугі ЖКГ. Пры гэтым у дакуменце прадугледжаны рост айчыннай эканомікі да еўрапейскага ўзроўню. Але, як паказвае практыка, дасягнуць такіх вынікаў зусім не проста, бо ў будучай пяцігодцы чамусьці няма паказчыкаў па заработнай плаце.

Нам паабяцалі дасягнуць заробкаў, эквівалентных сярэдняму ўзроўню ў суседніх краінах. Якую выбралі для параўнання краіну, не ўдакладнілі, можа таму, што суседзіпалякі цяпер у месяц зарабляюць 1490 $ , а ў Расіі атрымліваюць ужо 650 $. Беларусы хоць і сталі жыць багацей,чым у 2005 годзе, але ж наша зарплата ніжэйшая, усяго 390 $ у месяц. На гэтым фоне становіцца відавочна, чыя мадэль развіцця больш эфектыўная. Між тым, і папярэднюю пяцігадовую праграму мы ў многім не выканалі, паколькі яна была такой жа дэкларатыўнай, без дакладных паказчыкаў, па стылі і тэксту нагадвала праграмы савецкага часу "далейшага руху да камунізму".

Праўда, у адпаведнасці з мінулай такой праграмай да канца 2010 года неабходна было давесці паказчыкі кампенсацыі жыллёва-камунальных паслуг да 75-80 %. Але пакрываем кватрплату крыху больш за 30 % яе рэальнага кошту, цяпер гэты паказчык павялічылі да 60 %. Для народа гэта ўжо зараз адчувальна, бо колькі злосных неплацельшчыкаў за паслугі ЖКГ па краіне! Не ўдалося ў поўным аб'ёме выканаць і планку забеспячэння жыллём у 2010 годзе ( па мінулай праграме– 25,5-26 кв. метраў на чалавека).

З новай праграмы даведваемся, што зараз маем 24,1 кв. м , а ў канцы 2015 года будзе 27-28 кв. м. Таксама Беларусь не збіраецца ў бліжэйшы час уступаць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, а мець найбольш цесныя сувязі з РФ і Казахстанам у рамках Мытнага саюза і набліжаць свае нарматыўныя дакументы да патрабаванняў СГА. Вось толькі што будзе, калі наш асноўны гандлёвы партнёр Расія стане членам СГА, магчыма, ужо ў 2011 годзе.

Цяпер беларуская мадэль развіцця эканомікі нават з расійскай разыходзіцца ў многім.

Адзінае суцяшае, што за правал пяцігадовых планаў у Беларусі ніхто ў адстаўку, акрамя шэрагавых міністраў, добраахвотна не зыходзіў і ад удзелу ў выбарах не адмаўляўся. Няма сумнення, што чарговы Усебеларускі народны сход зацвердзіць гэту праграму. На гэтым форуме, падобным на ранейшыя партз'езды, яго дэлегаты дакумент прымуць пад апладысменты і падтрымаюць выбраны курс асаблівай мадэлі сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі. Эксперты нават не выключаюць, што адзін са сваіх перадвыбарных лозунгаў аб 1000-доларавай зарплаце для беларусаў да 2015 года можа агучыць на Усебеларускім сходзе дзеючы кіраўнік краіны.

Цікава, што ў праекце праграмы будучай пяцігодкі з'явіўся нават апазіцыйны тэзіс аб мільёне рабочых месцаў. Першым яго агучыў эканаміст Яраслаў Раманчук, а потым ягоную эканамічную праграму ў інтэрв'ю польскім СМІ назваў беларускі лідар "смешнай", але заўважыў, што паважае шчырасць памкненняў свайго апанента на выбарах. У цэлым ніякіх істотных зменнення, як прыкмецілі палітолагі, новая пяцігодка не прадугледжвае. Наватранейшы тэзіс аб тым, што Беларусь – дзяржава для народа, зараз не ўзгадваецца.

Новы лозунг гучыць так: "Патэнцыял чалавека – гэта патэнцыял дзяржавы, чым багацейшы чалавек, тым багацейшая краіна". Аднак канцэпцыя моцнай дзяржавы ва ўсім (чытай: адной моцнай рукі як направляючай і кіруючай) адкрыта дэкларуецца. Таму пры заяўленым курсе на лібералізацыю эканомікі куды мы дзенемся ад прагнозных заданняў, планаў і валавых аб'ёмаў, бо інакш гэта праграма страце кіруемасці па-беларуску.

Па-сутнасці, трэба сказаць шчыра, беларусам пакуль не наканавана адчуць сябе еўрапейцамі. Быццам наша краіна ні з кім не ваюе цяпер і таму пакрыху развіваецца, але ж усе новыя грандыёзныя планы ніяк не стасуюцца з тым, што так імкліва скарачаецца ў нас колькасць насельніцтва. Цяпер стаіць задача хоць бы захаваць колькасць жыхароў Беларусі на ўзроўні 9,4 млн. чалавек і давесці працяглацсць жыцця з 71 да 72-73 гадоў. Мэты такія высакародныя, але без многіх сістэмных пераўтварэнняў дасягнуць гэтага, як і іншых паказчыкаў развіцця Беларусі, будзе вельмі няпроста, калі ўвогуле магчыма.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 17.03.11 | | | | пятн. 18.03.11 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -4 | -4 | -1 | -4 | -5 | -5 | -2 | -4 |
| Ціск, мм | 761 | 760 | 759 | 757 | 756 | 754 | 753 | 753 |
| Вільготнасць, % | 82 | 86 | 77 | 85 | 81 | 82 | 77 | 82 |
| Вецер м/сек | В 4 | В 5 | В 6 | В 6 | Ю-В 5 | Ю-В 5 | Ю-В 5 | Ю-В 4 |
| | | 06:21 | 18:16 | | | 06:18 | 18:18 | |
| | | 15:23 | 04:58 | | | 16:55 | 05:16 | |

| | сб. 19.03.11 | | | | нядз. 20.03.11 | | | | пн.21.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -3 | -3 | 0 | -2 | -2 | -1 | +1 | -1 | -4 | -3 | -1 |
| Ціск, мм | 752 | 752 | 751 | 751 | 752 | 752 | 753 | 754 | 756 | 758 | 760 |
| Вільготнасць, % | 86 | 84 | 68 | 81 | 84 | 95 | 86 | 95 | 94 | 86 | 74 |
| Вецер м/сек | Ю-В 3 | Ю-В 3 | Ю-В 3 | Ю-В 3 | Ю 2 | Ю 2 | Ю-В 1 | С-В 3 | С 3 | С-В 3 | С-В 3 |
| | | 06:15 | 18:20 | | | 06:13 | 18:22 | | 06:10 | 18:24 | |
| | | 18:28 | 05:33 | | | 20:02 | 05:50 | | 21:35 | 06:10 | |

## Дзень за днём

**Да 2015 года плануецца перайсці на абслугоўванне жылфонда на конкурснай аснове, а пакуль устаноўка лічыльнікаў дазволіла знізіць спажыванне вады беларусамі на трэць. Праз 10 месяцаў для беларусаў зноў падаражэў бензін. Кіраўнік краіны заявіў, што ў бліжэйшы час у нас не будуць будаваць гіганцкіх спартыўных збудаванняў. Аднак Беларусь засталася адзінай у Еўропе, дзе на працягу аднаго года праводзіліся два пампезныя ваенныя парады. На гэтым тыдні Нацбанк увёў у абарачэнне шэраг новых банкнот беларускіх рублёў наміналам ад 50 да 20 тыс. рублёў з больш дасканалай ступенню абароны ад падробкаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Лівія.** Да істотнага росту сусветных цэн на нафту прывёў фактычна пачатак грамадзянскай вайны ў краіне і абвастрэнне сітуацыі ў шэрагу іншых арабскіх дзяржаў Афрыкі.

**Англія.** Глава МЗС краіны У. Хейг сумесна з нямецкім калегам у газеце "The Wall Street Journal" заявілі, што ЕС гатовы прыняць у свае рады Беларусь.

**Косава.** Па выніках трэцяга тура галасавання ў парламенце новым прэзідэнтам краіны стаў 59-гадовы швейцарскі міліардар і палітык албанскага паходжання Беджэт Паколі.

**Польшча.** Прэзідэнт Б. Камароўскі заявіў, што палякі будуць падтрымліваць простых беларускіх грамадзян і шукаць новыя магчымасці збліжэння нашых нацый.

**Галандыя.** Нацыянальны эканамічны інстытут CPB пацвердзіў, што летась аб'ём сусветнага гандлю ўпершыню дасягнуў дакрызіснага ўзроўню і вырас аж на 15 %.

**Украіна.** Украінскі пасол у РБ Р. Бязсмертны парушыў нормы паліткарэктнасці і даў негатыўную ацэнку выбарчаму працэсу ў Беларусі і выбарам прэзідэнта.

**Пакістан.** У выніку тэракта ў сталіцы краіны невядомыя застрэлілі днём з аўтамата адзінага хрысціяніна ва ўрадзе, міністра па справах нацменшынствах Шэхбаза Бхаці.

**Кітай.** Па ацэнцы сусветнага банка, яшчэ больш за 100 мільёнаў кітайцаў жывуць за мяжой беднасці, на даходы менш за 2 $ у дзень, у студзені цэны ў краіне выраслі яшчэ на 4,9 %.

**Расія.** На брыфінгу ў Маскве прадстаўнік МЗС РФ заявіў, што за ўдзел у акцыі ў Мінску матываваных абвінавачванняў двум расіянам следствам так і не было прадстаўлена.

**Японія.** Упершыню ў свеце вучоныя распрацавалі ўнікальную тэхналогію лячэння слепаты з дапамогай ствалавых клетак, першы такі эксперымент аказаўся паспяховым.

**Новая Зеландыя.** Шэраг раёнаў другога па велічыні горада краіны Крайстчэрса будуць знесены, бо яны пасля моцнага землятрусу сталі непрыгоднымі для пражывання людзей.

**ПАР.** Вучоныя адшукалі на глыбіні 3 км у Афрыцы самую старажытную ваду на зямлі, якая мільёны гадоў не злучалася з іншымі вадаёмамі, захавала свой першасны кампанент.

**ЗША.** У штаце Тэхас памерла ва ўзросце 115 гадоў самая пажылая жанчына свету Юніс Санборн, завяршыў у 110 гадоў зямны шлях самы пажылы ветэран вайны Фрэнк Баклз.

**Украіна.** Да радасці адпачываючых сёлета ўсе пляжы Чорнага мора будуць бясплатнымі па рашэнні ўлад Крыма, спецрэжым захаваны для пляжаў санаторыяў і пансіянатаў.

**Расія.** Па дадзеных амерыканскіх букмекераў, самую дарагую пакупку жылля з пачатку крызіса зрабіў у Нью-Ёрку кампазітар Ігар Крутой (кватэру за 44 млн. $) для дачкі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Сталічны МАЗ застанецца ў беларускай уласнасці, але будзе ва ўпраўленні сумесна з расійскім КамАЗам, летась на МАЗе скарацілі 4,5 тысячы рабочых і служачых.

**Гомель.** Да канца года аўтарамонтны завод выпусціць 100 новых аўтобусаў турысцкага класу III А421 "Радзіміч" на 31 месца з мяккімі сядзеннямі і сістэмай еўракамфорту.

**Астравец.** У Міністэрстве энергетыкі Беларусі пацвердзілі, што сёлета тут, на пляцоўцы будучай Беларускай АЭС, пачнецца пачатковы этап будаўніцтва.

**Мінск.** Група праваабаронцаў поўнасцю кампенсавала нанесены вечарам 19 снежня ўрон Дому ўрада ў суме 14 млн. рублёў, аднак абвінавачанымі па справе застаюцца 42 чалавекі.

**Магілёў.** З дапамогай інвестараў з Літвы на тэрыторыі СЭЗ "Магілёў" з'явяцца 2 буйныя прадпрыемствы коштам 80 млн. еўра па выпуску мэблі шведскай кампаніі "ІКЕА".

**Мінск.** Услед за закрыццём офіса АБСЕ беларускі бок адхіліў візіт у РБ візіт яе рабочай групы, правядзенне ў сталіцы семінара АБСЕ па свабодзе СМІ.

**Баранавічы.** Міліцыі прыйшлося вечарам застрэліць байцовую сабаку тэр'ера, якая напала і ледзь не загрызла да смерці 23-гадовую дзяўчыну. Параненая цяпер у бальніцы.

**Гродна.** Прэзідэнт РБ адмовіў у памілаванні прыгавораным летась абласным судом да смяротнай кары Андрэю Бурдыку і Алегу Грышкаўцову, іх скарга ёсць у Камітэце ААН.

**Мінск.** Пасол Венгрыі ў РБ Ф. Контра пацвердзіў, што быў на плошчы 19 снежня, дзе сабраліся дзясяткі тысяч чалавек, паскардзіўся, што праслухоўваюцца тэлефоны дыпмісіі.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ пачаў перапрацоўваць азербайджанскую нафту, як і раней венесуэльскую, у сумесі з расійскай сорту Уралс, яе сёлета можа паступіць 4 млн. тон.

**Мінск.** У рамках 1-га этапа тэхпераўзбраення ўпершыню ў СНД завод ацэпляльнага абсталявання запусціў італьянскі чыгунаплавільны комплекс з поўнай ачысткай выкідаў.

**Пружаны.** Незабыўнае для сябе вяселле ўстроілі ... пад вадой у адным з басейнаў Мінска жыхары раёна Таццяна і Вячаслаў Грышкевічы пасля 6 месяцаў трэніровак.

**Баранавічы.** Амаль усе пчолы прапалі ў пчаляроў-аматараў раёна, іх гібель фіксуецца трэці год запар з-за наяўнасці пестыцыдаў на калгасных палях і умоў пераменлівага надвор'я.

**Дзяржынск.** На чарговым конкурсе песні "Еўрабачанне-2011" у маі жыхары райцэнтра асабліва будуць "хварэць" за Насцю Віннікаву, яна скончыла тут беларускую гімназію.

**Мінск.** Правальным назваў міністр спорту і турызму РБ А. Качан выступленне Беларусі (2 медалі) на зімовай Універсіядзе, вінаватым атлетам і трэнерам паніззяць заробкі і выплаты.

## Унікальную здраўніцу плануецца пабудаваць у Браслаўскім раёне



■ БЕЛТА

У Браслаўскім раёне плануецца пабудаваць санаторый зблізку ўнікальнай крыніцы бромнай воды. Пра гэта паведаміў карэспандэнту БЕЛТА дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортнаму лячэнню насельніцтва Мікалай Мазур.

Санаторый можа ў найбліжкай будучыні з'явіцца ў мястэчку Відзы, які вядомы сваімі серавадароднымі крыніцамі. Пару стагоддзяў таму назад у наваколлях гэтага населенага пункта ўжо дзейнічала водалячэбніца, якая была створана прадстаўнікамі шляхоцкага роду Мінейкаў. Пад наглядам адмысловцаў у ёй адначасова маглі папраўляць здароўе каля 50 пацыентаў. Праўда, пасля пажару ў 50-х гадах XIX стагоддзя ад водалячэбніцы застаўся толькі падмурак.

Пошукі мінеральных вод у наваколлях мястэчка Відзы пачаліся ў 2001 годзе. Апроч серавадародных і бромных вод, поруч мястэчка знойдзены розныя тыпы лячэбных гразяў. "У гэтым унікальным месцы створаны ўсе ўмовы для адкрыцця санаторыя", - пераканаы Мікалай Мазур.

Ён таксама адзначыў, што не так даўно была завершана рэканструкцыя знакавага для Беларусі санаторыі "Радон", размешчанага ў Дзятлаўскім раёне Гарадзенскай вобласці. Адметную асаблівасць здраўніцы надаюць радоновые воды і сапрапелевыя лячэбныя гразі возера Дзікае.

## Чакаецца вялікі рост цэнаў на курынае мяса

■ Паводле Еўрарадыё

Птушкафабрыкі па ўсёй Беларусі нясуць страты. Закупныя цэны на курацiну ўрад трымае на леташнім ўзроўні, а сабекошт курынага мяса за апошнія некалькі месяцаў істотна вырас.

Курынае мяса застаецца ў беларускіх крамах самым танным.

Тушка бройлера каштуе каля 8 тысяч за кілаграм. Філе без косткі — 19.

Асноўны складнік сабекошту — гэта камбікорм. А цана яго моцна вырасла за апошні час у сувязі з агульным ростам цэнаў на збожжа на сусветным рынку.

На птушкафабрыках чакаюць дазволу Мінсельгасхарча на павышэнне цэнаў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Патрыяршы экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт асвяціў пабудаваную царкву – ніжні храм Свята-Успенскага праваслаўнага катэдральнага сабора.

**Наваполацк.** Як і летась, год пачаўся для мясцовага НПЗ "Нафтан" са стратнай дзейнасці з-за неспрыяльных умоў паставак на завод расійскай нафты.

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь" разам з холдынгам "Гарызонт" уключылі ў дзяржпраграму па выпуску лічбавых тэлевізараў стандарту DVB-T2 і высокай якасці адлюстравання HDTV.

**Верхнядзвінск.** Сыр "Пармезан" мясцовага масласырзавода заваяваў залаты медаль на буйной Міжнароднай выставе "Харчэкспа-2011" у Маскве.

**Полацк.** Праз 7 гадоў у горадзе зноў аднавілі дзейнасць медыцынскага вучылішча, дзе 1верасня пачнуць вучобу 60 будучых медсясцёр і фельчараў для бальніц рэгіёна.

**Віцебск.** У аблвыканкаме пацвердзілі, што ў 2011 годзе ў вобласці намечана закрыць яшчэ 26 устаноў культуры і 21 установу адукацыі, бо даўгі мясцовых бюджэтаў – 117 млрд. руб.

**Глыбокае.** На дарогах раёна толькі летась супрацоўнікі ДАІ затрымалі яшчэ 399 вадзіцеляў у нецвярозым стане, 1800 кіроўцаў перавысілі хуткасны рэжым язды.

**Орша.** На мясцовым мясакансервавым камбінаце пачалі выпускаць навінку: пюрэ з бараніны серыі дзіцячага харчавання "Ням-Ням", пераможцы конкурсу "Прадукт года".

**Талачын.** На трасе Мінск-граніца РФ ноччу міліцыя затрымала аўтамабіль "МАН", у тайніку якога нелегальна перавозіліся 3,6 тоны лома каляровых металаў на суму 15 млн.

**Лёзна.** У жыхароў буйнога Дабрамысленскага сельсавета засталося на падворках усяго 108 кароў. Каб пражыць, людзі сталі трымаць коз, авечак, кролікаў і свіней.

**Віцебск.** Міліцыя разам з калегамі-паліцэйскімі з РФ пачала шукаць арганізатара ліпавага цыркавога шоу, які разам з грашыма ( больш за 60 млн. руб) скрыўся на расійскіх прасторах.

**Сянно.** Аршанскі малочны камбінат з-за скарачэння летась на 21 % аб'ёмаў закупак малака ад насельніцтва закрыў свой пункт прыёму сырадою ў гарпасёлку Багушэўск.

**Паставы.** З-за аварыйнага стану ў раней квітнеючай вёсцы Савічы закрылі сельскі клуб і бібліятэку, раней ліквідавалі сельсавет, цэнтр калгаса "Запаветы Ільіча", і СШ.

**Наваполацк.** Пасля перапынку ў горадзе вырашылі правесці нацыянальны конкурс юных выканаўцаў эстраднай песні "Халі-Хало", на ім у свой час адкрылі Н. Падольскую і П. Ялфімава.

**Орша.** Закрыццё рахунку гарарганізацыі Чырвонага Крыжа абурыла медработнікаў горада, бо для іх з вобласці давалі "план" прымусова ахвяраваць сёлета 24 млн. рублёў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

# Дарожкавічы

У пачатку XVI ст. уладальнікамі трох маёнткаў каля Дзісны сталі полацкія баяры Мацфей і Мікіта Шпырковічы, Філімон і Аляксей Фефаловічы, Сцяпан і Сапрон Дарашковічы. Першыя двое, верагодна, валодалі Лонкай і Горкамі, таму што больш падыходзячых маёнткаў няма. А Сцяпан з Сапронам Дарашковічы валодалі вялікім маёнткам, які прылягаў да заходняга краю Дзісны, маёнткам Дарожкавічы, які і атрымаў назву з некаторымі зменамі ад прозвішчаў сваіх уладароў.

У другой палове XVIII ст. маёнтак адкупілі Кастравіцкія. Тады ж на беразе Заходняй Дзвіны побач з Дзісной на прыгожым высокім месцы быў закладзены парк з алеямі, аранжарэямі, капліцай, усыпальніцай, альтанкамі і каменнай двухпавярховай сядзібай. Кастравіцкія былі каталікамі і прыхільнікамі і апорай польскай улады.

У паўстанні 1831 года сям'я Кастравіцкіх прамога ўдзелу не прымала, але падтрымку аказвала.

Па ўсіх абвінавачваннях браты Кастравіцкія былі высланыя: Юзаф у Сібір, а Адам у Арэнбург. Трэці брат, Міхаіл-Апалінарый, штабс-капітан рускай арміі, не стаў чакаць арышту, паехаў з сям'ёй у Італію. У Рыме ён служыў у папскай гвардыі. Яго дачка Ангеліка, якую ён 5-гадовай прывёз у Рым, потым нарадзіла пазашлюбнага сына ці то ад італьянскага афіцэра, ці то ад унука Напалеона Банапарта. Хлопчыка назвалі Гіём Апалінэр (Апалінэр азначае "сын Апалона"). Поўнае яго імя– Вільгельм-Альберт-Уладзімір-Аляксандр-Апалінарый Кастравіцкі. Па адной з версій, унук Напалеона Банапарта– плод каханьня імператарскага сына і … далёкай сваячкі самой Ангелікі. Вось такая метамарфоза! Апошняя версія незвычайнага паходжання Гіёма адлюстравана ў яго рамане "Затраўлены арол".

Па некаторых дадзеных, маёнтак Кастравіцкіх у Дарожкавічах у 1831г. быў канфіскаваны, але гэта не адпавядае сапраўднасці. Маёнтак дастаўся Яго Імператарскай Вялікасці Статс-сакратару Пятру Аляксандравічу Рыхтэру, які, згодна надпісу на магільным помніку на Дзісненскіх праваслаўных могілках, нарадзіўся ў 1830 годзе. Не мог ён ва ўзросце аднаго года стаць ні Статс-сакратаром, ні ўладальнікам маёнтка.

Адносна Дарожкавіч сустракаюцца дадзеныя, што з 1864 года маёнтак становіцца ўласнасцю Сяргея Карпава, сваяка Кастравіцкіх. Такі варыянт быў сфабрыкаваны Людвігай Кастравіцкай метадам фіктыўнага продажу. Сваяк ў далейшым мог захаваць маёнтак за сабой. Падман быў выкрыты ўладамі, маёнтак канфіскавалі або прадалі



Пятру Аляксандравічу Рыхтэру. Тады ўсё становіцца на сваё месца. Так або інакш, але з 1864 або 1865 года Дарожкавічы пераходзяць да ўлады Рыхтэра.

Жонка Рыхтэра Кацярына Канстанцінаўна Рыхтэр-Нікіфарава аказалася жанчынай, няздольнай да дзетанараджэння. Праз некаторы час стала явай, што пакаёўка нарадзіла дачку, якую як бацька прызнаў сам Пётр Аляксандравіч. Скандалу не было. Кацярына Канстанцінаўна па згодзе з Пятром Аляксандравічам запрасілі пакаёўку і прапанавалі ёй пагадненне. Яна адмаўляецца ад дачкі, Рыхтэры яе ўдачараюць і выхоўваюць як свецкую барыню, за што пакаёўка атрымоўвае добры зямельны надзел, дом і гаспадарчыя пабудовы, участак лесу, каня, карову і іншую жыўнасць. Пакаёўка ў адно імгненне са служкі ператвараецца ў нявесту з багатым прыданым.

Рыхтэры не шкадавалі ні сіл ні сродкаў і зрабілі ўсё для таго, каб прыёмная дачка Ніна атрымала добрае выхаванне і адукацыю, але пры ўсім гэтым не страціла лепшыя чалавечыя якасці: працалюбства, павагу іншых людзей, любоў і шляхетнасць.

Па словах старажылаў, муж і жонка Рыхтэры, нягледзячы на высокае сацыяльнае становішча, былі людзьмі хлебасольнымі і любілі ў сваім маёнтку прымаць гасцей, і знакамітых, і не вельмі. Хоць у Дзісне было некалькі заезджых дамоў, гасцініц, многія прыезджыя спыняліся ў Дарожкавічах у Рыхтэраў.

Адным з такіх заезджых аказаўся малады масквіч, які меў дзве вышэйшыя адукацыі, любіў падарожнічаць– нехта Адрыян Адрыянавіч Капылоў. І Ніна Пятроўна, і Адрыян Адрыянавіч у душы адчулі і сэрцам зразумелі, што яны жыць адзін без аднаго не могуць. Гэта стала зразумела і для Кацярыны Канстанцінаўны і Пятра Аляксандравіча. І калі Адрыян папрасіў рукі Ніны, то атрымаў згоду. Пётр Аляксандравіч разумеў, што лепшага наследніка для маёнтка і мужа для Ніны не можа і быць.

Калі ў 1895 годзе ва ўзросце 65 год Пётр Аляксандравіч памёр, Капылоў стаў поўным уладаром маёнтка Дарожкавічы. Гаспадаром ён аказаўся руплівым для сябе і клапатлівым для прыслугі і рабочых. У яго былі самыя выгадныя ўмовы для тых, хто браў зямлю на запашку. Яны звычайна сяліліся ў вёсцы Дарожкавічы, непадалёк ад пакояў барына (так ён загадаў называць сябе) і ад гаспадарчых пабудоў. Кожны меў права бясплатна пасвіць дзве каровы на барскай пашы, дзе былі і каровы самога барына. Ураджай восенню дзяліўся пароўну: адну частку барыну, другую – запашніку. Ніколі не прысутнічаў пры дзяленні ўраджаю, давараў запашнікам. А тыя, бачачы да сябе такія адносіны, ніколі яго не падманвалі.

Яго клапатлівыя адносіны да чалавека працы праяўляліся яшчэ і тым, што ён кожны год па заканчэнні жніва праводзіў агульныя дажынкі для ўсіх удзельнікаў. Наймаліся жанчыны-жнеі і падзёншчыкі, якім ён плаціў крыху больш, чым суседзі-памешчыкі, а таму ўборка праходзіла ў кароткія тэрміны і з мінімальнымі тратамі. Арганізоўваўся агульны вялікі стол, за якім размяшчаліся ўсе ўдзельнікі жніва, а абслугоўвалі іх сам Адрыян Адрыянавіч, яго жонка Ніна Пятроўна, трое сыноў і тры дачкі. У гэтым і была сутнасць павагі да чалавека працы, які корміць хлебам не толькі сябе, але і сваіх гаспадароў.

Старэйшая дачка Адрыяна і Ніны Вера вывучылася на агранома, Таццяна і Ніна – педагогі. Навучалі пры панскай Польшчы ў Дзісненскай гімназіі імя ксяндза Гжэгуша Піхановіча. Адзін з сыноў, Аляксандр, 1913г нараджэння, памёр у 1920 годзе. Два другія, Барыс і Кірыл, працавалі з бацькам. Адметнай рысай членаў сям'і з'яўлялася тое, што ўсе імкнуліся да натуральнага: простай экалагічнай ежы, простага адзення і абутку. Дочкі летам хадзілі ў саматканых адбеленых і вышытых ільняных блюзках і сукенках. Старажылы кажуць, што гэта было і модна і прыгожа.

Адрыян Адрыянавіч Капылоў быў вялікі мецэнат. Ён дапамагаў матэрыяльна абедзвюм дзісненскім цэрквам, гімназіі і сельскім школам. Дапамагаў і сялянам.

Як у любога чалавека, былі ў яго свае дзівацтвы. Ён загадваў зварыць вядро гароху, парубка садзіў у лодку на вёслы, сам з гарохам – на карму. Як толькі лодка з'яўлялася на вадзе, вялікі касяк рыбы суправаджаў яе, а Адрыян Адрыянавіч дробнымі порцыямі гароху падкормліваў. Не, ён рыбу не лавіў – любаваўся.

Аўтарытэт і павага да Капылова ў простых людзей была велізарныя. Калі ў 1939 годзе прыйшла савецкая ўлада, яго адразу арыштавалі, перавезлі на правы бераг Дзвіны на пагранічную заставу. Просты люд сабраў подпісы пад прашэннем яго вызваліць, але марна. З той пары ніхто аб яго далейшым лёсе не ведае. Жонку і дзяцей вывезлі, маёнтак канфіскавалі. Ужо пасля развалу СССР старэйшая дачка Вера прыязджала ў Дзісну да сваіх былых сябровак, але прыезд свой не афішавала і аб лёсе бацькі нічога не ведала.

На аснове маёнтка быў арганізаваны калгас "1 Мая", у якога склаўся ўнікальны лёс. 4 ліпеня 1941 года немцы акупавалі Дзісну і адразу ж пачалі навадзіць свае парадкі. Калгас не разагналі, а толькі змянілі назву. Камендант Дзісны, обер-лейтэнант жандармерыі Галь, прывёз галандскага кіраўніка, і ўсё пайшло сваім ходам. Сюды ж сагналі кароў, выраблялі малако, мяса, зерне. Дарожкавічане і іншыя людзі, якія працавалі ў "нямецкім калгасе", у якасці зарплаты атрымоўвалі па 16 кг мукі ў месяц на чалавека і мелі права на падсобную гаспадарку.

У 1943 годзе тры атрады 4-й Беларускай партызанскай брыгады ноччу нечакана атакавалі Дарожкавічы і Дзісну, сагналі частку скаціны, вывезлі частку зерня і спалілі млын.

Пасля выгнання немцаў з Дзісны 4 ліпеня 1944 года маёнтак, як і вёска Дарожкавічы, ад разрухі не пацярпелі. Зноў былі арганізаваны калгас "1Мая". Кантора і клуб знаходзіліся ў маёнтку, але ніхто не цікавіў стан памяшканняў. Эксплуатавалі на знос, ніякага рамонту ніхто не рабіў. Прыкладна ў 1952-1954гг прайшло ўзбуйненне калгасаў, цэнтр перанеслі ў суседнюю вёску Шарагі. Наступіў перыяд паступовай разрухі пабудоў маёнтка. Штосьці знішчыла прырода, а многае расцягнулі, разламалі самі людзі. Разбіралі нават сцены. Усё прыйшло ў поўнае запусценне.

Калісьці прыгожы, больш чым двухсоттгадовы парк ператварыўся ў непраходныя зараслі. Знішчылі цудоўныя аранжарэі, альтанкі, алеі. Сярод векавых ліп і іншых дрэў параслі маладняк і хмызняк. Паўднёва-ўсходні ўскраек парку ператварыўся ў звалку і памыйку.

Канчатковую кропку у знішчэнні цудоўнага ўнікальнага помніка прыроды, які мог стаць адным з аб'ектаў наведвання турыстамі, паставілі год 25-30 таму назад, калі праводзілі каналізацыю сцёкавых вод ад Дзісненскай бальніцы. Ва ўсходняй частцы парка вырылі вялізны катлаван, на дне якога зрабілі адстойнікі і фільтры ачысткі нечыстот. Карціна жудасная. Аб'ект можа прадстаўляць цікавасць для турыстаў толькі ў адным плане: як чалавек здольны знішчыць прыгажосць, створаную нашымі продкамі.

На дзісненскіх праваслаўных могілках знайшлі свой апошні прытулак і Рыхтэр П.А., і яго жонка Кацярына, сын Капылова Аляксандр і яшчэ пяцёра іх бліжэйшых сваякоў. Усе яны пахаваны кампактна ў адным месцы. Пасля 1939 года ніхто іх магілы не дагляда ў. Дзякуючы нашай Вользе Аляксандраўне Мароз, старшыні Дзісненскага гарсавета, якая шмат зрабіла і робіць па добраўпарадкаванні горада, у 2010 годзе пачаліся работы па навядзенні парадку і на могілках. Высеклі зараснікі кустоў, сабралі смецце і з пахаванняў былых уладароў Дарожкавіч. Работы будуць працягвацца і ў гэтым годзе.

Прыкладна 20 год назад у Дзісну быў накіраваны святар Генадзь Каранеўскі. Чалавек энергічны, працалюбівы, які мог сам узяцца за любую чарнавую работу, ён сумеў сваіх прыхаджан прыцягнуць да актыўнай работы па ўзнаўленні Свята-Васкрэсенскай царквы. Улічваючы матэрыяльныя і фінансавыя цяжкасці, будматэрыялы шукалі дзе толькі можна было іх знайсці. Не абышлі і развалiны маёнтка. Аднак цэгла гэта аказалася непрыдатнай для ўзнаўлення храма.

І вось крыху больш за 10 год таму айцец Генадзь выбраў гэта месца для будаўніцтва асабістага дома. Па яго словах, дом будаваўся з разлікам не толькі на выгоды для членаў сям'і, але і каб душы было прыстанішча, для чаго прадугледжана памяшканне для хатняй царквы. Ну а калі хто пажадае ў госці, то міласці просім, будуць і бліны і да бліноў.

Айцец Генадзь не лічыць работу закончанай. Патрэбна абуладкаваць частку парку, увесь не пад сілу. Абсталяваць бераг Дзвіны, каб можна было чалавеку адпачыць і пакупацца ў яе прахалодных водах. Ды і тое, што ўжо зроблена, трэба акультурыць.

Калі ёсць людзі, неабыякавыя да нашага запусцення, якія сваёй працай адраджаюць нашу гісторыю, то можна быць упэўненым у тым, што мы, беларусы, зоймем годнае месца ў сусветнай цывілізацыі.



■ Яўген Самсонаў

# Наш дабрабыт залежыць ад паразумення, жадання і згуртаванасці

Уштодзённым бытавым жыцці зрэдку здараюцца ўсялякія непадзяваныя сітуацыі. Да гэтай актуальнай тэмы па просьбе чытачоў "Вольнага Глыбокага" і наведвальнікаў сайта "westki.info" аўтар гэтых радкоў звяртаўся не адзін раз. У артыкуле "Загадзя паклапаціцеся аб сваёй бяспецы" ды і ў іншых даваліся парады, як з найменшымі ахвярамі (у межах разумнага) выходзіць з таго ці іншага надзвычайнага становішча, ведаць, дзе перакрываецца вада, ацяпленне, адключаецца электрычнасць, узгадваліся правы і абавязкі кватэраздымшчыка.

**Падзяка бывае рознай**

За сем год працы вадзіцелем аварыйна-дыспетчарскай службы УП ЖКГ Глыбоцкага раёна ў спарцы з дзяжурным сантэхнікам, электрыкам ці слесарам водаканала па заданні дыспетчара прыходзілася ліквідаваць шмат аварый і розных непаладак. Давялося пачуць і пабачыць усякага. З паразуменнем і агульнымі намаганнямі выйсце можна знайсці з любога крытычнага становішча. Ад сябе асабіста скажу шчыра: мне за ўсе гэтыя гады не сорамна глядзець у вочы людзям, бо рабілі ўсё магчымае, каб выратаваць людзей з бяды і ў найкарацейшы тэрмін. Кожны раз, ужо вяртаючыся на базу пасля ліквідацыі аварыі, адчуваеш нейкае душэўнае задавальненне, што мы дапамаглі людзям. Сапраўды, прыехаўшы на выклік, бачыш пацярпелых усхваляванымі, бездапаможнымі, нярэдка ў адчаі, здольных на "моцнае слаўцо". Нейк няёмка сябе адчуваеш пасля ліквідацыі: тыя ж людзі, але ўжо са слязьмі радасці і ўсмешкай, дзякуюць і просяць прабачэння за непаразуменне.

Але ёсць і іншая катэгорыя людзей, для якіх існуюць толькі два меркаванні – адно сваё ўласнае, а другое – няправільнае. Ім вынь ды пакладзі тут і цяпер, інакш…

Іх не цікавіць, якімі высілкамі, намаганнямі і сродкамі забяспечваецца дабрабыт насельніцтва, што з камунальнікамі за ўжо выкананыя работы і паслугі не разлічыліся бюджэт, арганізацыі, насельніцтва, і гэта сума складае на сённяшні дзень 2135,4 мільёнаў рублёў! І ніхто не спяшаецца разлічвацца, а запазычанасць расце. Толькі за паўгода дыспетчарская служба ЖКГ прымае звыш пяці тысяч(!) заявак ад тых, каму патрэбна дапамога. Ніхто ж не сядзіць без вады, цяпла і святла. А ў якім стане прымаюцца на баланс ЖКГ жыллёвы фонд і іншыя аб'екты! Ці належным чынам клапаціліся раней пра тэхнічны стан іх былыя ўладальнікі, гаспадары-мільянеры, МКК, с-з "Азярцы" і іншыя?

**Заяўка № 4408**

Дзесьці а сёмай гадзіне 13 лютага ў дыспетчарскай камунальнікаўраздаўсязванок – у доме № 49"А", што па вуліцы Камуністычнай, прарвала водаправодную трубу, залівае склеп. Прыедзьце, дапамажыце! Дыспетчар патэлефанаваў на кватэру дзяжурнаму сантэхніку Віктару Пачопку, паведаміўшы, што высылае дзяжурную машыну.Ператэлефанаваў на нумар выкліку, удакладніў адрас (бываюць ілжывыя заяўкі, ды і дом № 49"А" па вул. Камуністычнай на балансе ЖКГ не значыцца, водаправод уласны і абслугоўваць яго павінен сам гаспадар) і ўжо па рацыі (машына была ўжо ў дарозе) пацвердзіў заяўку. Прыбыўшая на месца здарэння аварыйная брыгада хуценька з'арыентавалася ў абстаноўцы. Ваду, якая цякла з пашкоджанай трубы ў склепе, можна было закрыць толькі ў калодзежы, але там кран на адводзе ў гэту кватэру быў няспраўны. Скінуўшы верхнюю вопратку, сантэхнік залез у калодзеж, пераламаў поліэтыленавую трубу, заматаў яе дротам і такім чынам закрыў ваду.



Спецыяліст сваёй справы В. Пачопка

Аўтар спрабаваў патлумачыць гаспадару, што, каб ён загадзя патурбаваўся пра сваю бяспеку, ведаў, як перакрыць ваду і сам яе перакрыў (у надзвычайным становішчы гэта адзінае выйсце), то шкоды было б менш і нашы платныя паслугі былі наўрад ці патрэбныя. Аднак ён мяне не слухаў, а па тэлефоне абураўся дыспечару, чаму непрысылае"бочку"(АВМ) і ўпартым голасам строгага кіраўніка пагражаў вялікімі непрыемнасцямі, калі праз 5 хвілін да яго не прышлюць "бочку". Зразумеўшы, да якой когорты людзей адносіцца шаноўны гаспадар, не спадзеючыся нават на падзяку, мы паехалі на базу.

**Заяўка №4479**

Падобны выпадак адбыўся вечарам 15 лютага па вуліцы Шпітальнай, 33. Толькі жанчына, разгубіўшыся, патэлефанавала не ў ЖКГ, а ў міліцыю. Тыяператэлефанавалі дыспетчару ЖКГ. З дзяжурным слесарам водаканала, Косцем Патапахіным, прыехалі на месца аварыі. Жанчына ў адчаі і слязах. Супакоілі, параіліся. Знайшлі калодзеж, адкапалі ад снегу. Адчэрпалі разам з гаспадаром вядром ваду з калодзежа (ехаць ж за вадзіцелем АВМ – лішняя трата часу). Дзякуй добраму чалавеку з вул. Школьнай – даў гумовыя боты. Косця залез у калодзеж і перакрыў ваду. Як была рада і як шчыра дзякавала маладая гаспадыня гэтага дома за дапамогу!

**Пасляслоўе**

Вяртаючыся да першага выпадку з вуліцы Камуністычнай, 49"А", узгадаю, што 14 лютага брыгада з водаканала замяніла пашкожаны водаправод, але зноў не дагадзіла гаспадару дома. Ён хацеў, каб яму за кошт ЖКГ праклалі трубу з нержавейкі. Дарэчы, прайшла нядзеля, а гэты спадар яшчэ не заплаціў і наўрад ці заплоціць добраахвотна за аказаныя паслугі, затое напісаць скаргу на дыспечара Шалаева У.С., абражаючы яго гонар і службовую годнасць, не прамінуў.

З тэлефоннай размовы з гаспадаром вышэй узгаданай кватэры стала зразумела, што ён лічыць сябе адзіным, хто ва ўсім мае рацыю і ніякіх грошай за атрыманыя паслугі плаціць не збіраецца. А дарэмна, можа надарыцца так, што якраз і не хопіць тых сродкаў, якія Вы скруцілі, на паліва дзяжурнай машыне, каб прыехаць і выратаваць Вас ці іншага чалавека чарговы раз з бяды.

Наш агульны вораг – паўсядзённыя праблемы побыту. Наша сіла ў паразуменні, жаданні і згуртаванасці. І кожны павінен вызначыцца, на якім ён баку барыкад. Зрэдку яскрава бачна, хто ёсць "засланы казачок"(аматар штучна ствараць праблемы) і каго можна смела браць у разведку.

# Лукашэнка ўхваліў праект пагаднення паміж Беларуссю і Расіяй аб супрацоўніцтве ў будаўніцтве АЭС

**Аляксандр Лукашэнка ўхваліў праект міжурадавага пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб супрацоўніцтве ў будаўніцтве на тэрыторыі Беларусі атамнай электрастанцыі з улікам зменаў прынцыповага характару, унесеных у выніку правядзення перамоў з расійскім бокам.**

Адпаведны ўказ падпісаны Прэзідэнтам 14 сакавіка, паведамляе яго прэсслужба.

Як перадавалася раней, міжурадавае пагадненне плануецца падпісаць 15 сакавіка ў Мінску на пасяджэнні Саўміна Саюзнай дзяржавы. Таксама падчас пасяджэння плануецца падпісанне пагаднення аб паралельнай працы энергасістэм Беларусі і Расіі.

Ужо ў маі бакі маюць намер падпісаць кантрактнае пагадненне, а не пазней за чэрвень крэдытнае пагадненне паміж Міністэрствамі фінансаў дзвюх краін.

Мяркуецца, што ў верасні 2011 года пачнецца будаўніцтва катлавана на пляцоўцы, дзе будзе ўзведзена АЭС.

*Андрэй Кажамякін, БелаПАН.*



Беларуская АЭС.

# Сіноптыкі прагназуюць рост узроўню вады на рэках Беларусі бліжэйшымі днямі

**Бліжэйшымі днямі на рэках Беларусі будуць узрастаць узроўні вады, паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэаралагічнага цэнтра Дзмітрый Рабаў на брыфінгу ў Мінску 14 сакавіка.**

Паводле яго слоў, у сувязі з цёплым надвор'ем на рэках у асноўным адбываецца рост узроўню вады з інтэнсіўнасцю 1,17 см за суткі. На Сожы і Прыпяці захоўваецца спад узроўняў вады і роўны іх ход.

Узровень вады не перавышае адзнакі выхаду на пойму на Нёмане каля вёскі Беліца, усім працягу Прыпяці і большасці яе прытокаў. На Прыпяці на ўчастку Чэрнічы - Петрыкаў узровень вады знаходзіцца вышэй за небяспечна высокія значэнні на 20-25 см.

Рабаў таксама паведаміў, што па стане на 14 сакавіка на большасці рэк Беларусі адзначаецца ледастаў, з палонкамі. Зажоры і рух шарашу назіраюцца на Нёмане ў раёне вёскі Беліца і яго прытоку ракі Гаўя, на Віліі ў раёне вёскі Сцешыцы, Прыпяці ў раёне Пінска і Мазыра і яе прытоку ракі Шацы, а таксама прытоку Сажа рацэ Віхра, рэках Лясная і Мухавец, якія з'яўляюцца прытокамі Заходняга Буга. На рацэ Цна, якая з'яўляецца прытокам Прыпяці, у раёне вёскі Дзятлавічы ледзяныя ўтварэнні разбурыліся, а ніжэй па цячэнні ракі яшчэ захоўваецца ледастаў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*



«Глыбоцкая Венецыя». Паводка на Беразвіцы ў раёне вул. Вольнай, 2004 г.

**Падзяка**

Выказваю падзяку аўтатранспартнаму цэху МКК за аказаную дапамогу.

*Валерый Гвідонавіч Маслоўскі.*

Затэлефануй: ЛАЙФ 915-86-86; мтс 590-70-38, 876-53-39.
Вокны ПВХ, Алюмініевыя балконныя рамы, Стальныя дзверы
ІП Глухоўскі М.Т. УНП 390506228; Ліц. № 22150/0283587 ад 30.10.2007 г., выд. Глыбоцкім РВК.

СТА ЧУП "Авто-ЗАБОТА"
-Камп'ютарная дыягностыка
-Развал-сыходжанне
-Аўтарамонт
-Падрыхтоўка, пафарбоўка, падбор фарбаў, паліроўка
-Зварачныя работы
-Выпраўленне перакосаў, рыхтоўка аварыйных аўтамабіляў на завадскім стэндзе
-Рамонт генератараў, старцераў
-Замена масла
Глыбокае, вул.Прамысловая,15
Мы працуем з 8 да 18 акрамя нядзелі
Стол заказаў: 2-65-94; мтс: 8-029-299-13-64; velcom: 8-029-112-59-10

Вырабім. ПУП "РиМейк" унп390506149
ДУБЛІКАТЫ ЧЫПАЎ ДАМАФОНАЎ
вул.Леніна 26-2, тэл.: 2-12-58

Будаўнічая кампанія ААТ «Арыва»
ЗАПРАШАЕ НА РАБОТУ рабочых УСІХ БУДАЎНІЧЫХ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЯЎ
УНП 391051715
тэл. мтс 513-68-49; 513-92-92

## Куплю жывёлу:

Дорага быка, карову, каня. Т.: 594-44-34****

Дорага карову, быка, цяля, каня. Т.: 294-35-44****

Дорага карову, бычка, цяля, каня. Т.: 577-94-52**

Маленькага сабачку «Пікенэс», дорага. Т.: 3-33-19

Рабочага каня. Т.: 296-20-78

Карову, цяля, бычка. Т.: 8-029-293-81-45*

## Аддам жывёлу:

Аддам у добрыя рукі шчанят нямецкай аўчаркі(дзяўчынкі).Т.:259-08-88(мтс)

## Прадам тавары для дзяцей і маці:

Каляску «Джып», л\з варыянт. Дзіцячы ложак з матрацам. Прагулачную каляску-тросць, новая. Т.: 8-033-307-91-33

Каляску «Galaxy», колер залаты, поўны камплект, выдатны стан.Т.:8-033-67776-33

Дзіцячую каляску «Джып». Т.: 3-93-94, 711-99-50*

Дзіцячую каляску для хлопчыка, поўны камплект, б\у. Т.: 8-029-714-28-45

Каляску «Джып», трансформер, сіняя з жоўтым, поўны камплект, 360 тыс. руб. Т.: 337-21-07, 337-21-09

Прадам каляску дзіцячую «Джып», зялена-салатная, поўны камплект, выдатны стан, б/у. Т. 8-033-675-46-08

## Куплю адзенне, абутак:

Боты новыя хромавыя ад 42 п-ру. Ваеннае абмундзіраванне часоў 1941-1980гг. Т.: 516-26-44 (Г.Глыбокае, вул. Гагарына,2)

## Прадам паліва:

**Дровы, з дастаўкай. Т.: 8-029-514-21-76+**

Дровы. Т.: 675-57-58(мтс)

Дровы. Т.: 216-62-75(мтс)

ЧУП «Маркет Прадукт» прадасць дровы з дастаўкай, па Глыбокаму і ваколіцах. Т. 8-02156-2-29-49, 8-029-718-68-55

Дровы з дастаўкай, нядорага. Т.: 8-029-249-98-31***

Дровы 5 кубоў, 650 тыс. руб. Т.: 8-029-295-65-42***

Дровы з дастаўкай. Т.: 8-029-519-52-92(мтс), 2-23-92

Дровы ў калодках. Т.: 819-90-70(мтс)

## Прадам сельгасінвентар:

Касілку КС-2.1 да трактара. Т.: 812-01-50(мтс)

Хамуты конныя, 2 шт. Т.: 677-02-94(мтс)

Касілку конную, 500у.а. Т.: 218-04-55

Акучнік 2-радны. Бульбасаджалку 1-радную.Бульбакапалку навясную 1-радную.Т.719-77-15(мтс),7197711(мтс)

Калёсы на драўляным ходзе, барану драўляную, шчэпку з трох баронак.Т.717-5112(мтс)

Дыскі навясныя для апрацоўкі глебы на МТЗ-82. Т.: 8-029-516-50-09

Конную касілку, 500у.а. Т.: 8-029-218-04-55(мтс)

Запчасткі для бульбакапалкі польскай. Т.: 8-029-970-91-60

ТАКСІ
8-029-505-03-05 Мінівэн, хутка, кругласутачна, зручна
8-029-715-44-11 513-06-07 816-44-11 817-30-00

## Прадам сена:

Сена. Т.: 717-51-12(мтс)

Сена.Т.: 718-59-34(мтс)

## Куплю сена:

Куплю сена.Т8-029 213-84-25

## Прадам кветкі:

Прадам пакаёвыя кветкі цыкламэны. Т. 8-033-610-21-61

## Прадам тавары для здароўя:

Прыбор-актыватар для вытворчасці актывіраванай «жывой» і «мёртвай» вады. Хутка і эфектыўна вылечвае адэному прастаты, сардэчна-сасудзістыя захворванні, у тым ліку павышаны і паніжаны ціск, эрозію шыйкі маткі, язву страўніка і 12-перснай кішкі,лішнюю вагу, атлусценне, галаўны боль, алергію, бранхіт, цукровы дыябет, гнойныя раны. Узнаўляе і павышае патэнцыю, узнаўляе нервовыя клеткі чалавечага арганізма. Прыбор амаладжвае клеткі чалавечага арганізма і многае іншае.Тэлефон для бясплатнай кансультацыі па пытаннях лячэння і пакупкі: 8-029-120-82-52***

Прыбор-актыватар жывой і мёртвай вады, вылечвае 97% хвароб, вядомых медыцыне. Т.: 8-029-295-65-42***

## Куплю калекцыі:

Старыя манеты, узнагароды і іншае. Т.: 757-37-70+

Старыя манеты, значкі, грамафон, званочкі, радыёпрыёмнікі і іншае. Т.: 2-94-40, 8-029-510-43-80*

Старыя здымкі, паштоўкі, дакументы. Т.: 514-29-43+5

Старынныя манеты, медалі, самавары,гадзіннікі і інш.Т.:8-044-794-25-71(в)****

Партбілеты б\у і новыя, неабмежавана. Т.: 516-26-44

## Іншае:

УА «Глыбоцкі дзяржпрафліцэй» праводзіць набор груп на перападрыхтоўку вадзіцеляў з кат. В на кат. С, падрыхтоўку вадзіцеляў кат. А. Т.: 2-19-34,590-47-54(мтс)*

Патрабуецца прапіска ў Глыбокім. Т.:518-47-65(мтс)

Шукаю партнёраў для адкрыцця магазіна абутку. Т.: 8-029-124-20-19

## Прадам іншае:

Бетонамяшалку новую 220Вт. Т.: 249-41-04+

Бетонамяшалку 3-х фазную, 0, 25 м 3. Нядорага. Тэл.: 610-32-22 (мтс).

Сетку-рабіцу, вышыня 1м, 1,2м, 1,8м. Ацынкаваная, з палімерным покрывам. Т.: 8-029-512-48-22

Сетку-рабіцу, 1,2х10м,ацынкаваная. Т.: 8-029-396-96-75

Эл\насос «Агідэль».Т.: 2-30-54

Аўчынкі (шкуры) і воўну (шэрсць). Т.: 711-37-15

Акварыум 80л з абсталяваннем і рыбкамі, 120у.а. Т.: 294-87-79(мтс)

Набор нямецкага посуду, 17 прадметаў, 400 тыс. руб. Т.: 294-87-79(мтс)*

Стальны ацяпляльны кацёл на ц\паліве з чыгуннай плітой для варкі, новы + эл\насос з 2-я кранамі Д-25 у зборыТэрмінова!Т.8174404***

Бензапілы «Шціль», арыгінальныя,шведскія, нядорага, новыя, гарантыя,магчыма растэрміноўка. Т.: 8-029-295-65-42,8-029-249-98-31***

Сячкарню. Т.: 4-12-89

Пілу «Шведку-268». Т.: 296-92-69(мтс)

Эл\пралку.Т.8-033-6141165(мтс)

## Куплю іншае:

Ёмістасць пад каналізацыю. Т.: 297-32-92(мтс)

Адходы паліэтыленавай плёнкі па 700-800 руб\кг, 800 тыс. руб\тона. Т.: 599-49-93(мтс)

Ёмістасць пад каналізацыю. Т.: 294-12-09(мтс)

Эл\кампрэсар, свярлільны, такарны станок. Т.: 605-02-79(в), 485-06-96(в)**

## Паслугі:

**Выканаю мантаж сістэм ацяплення і вадаправода поліпрапіленам і іншым матэрыялам, а таксама: усталяванне газавых і ц\паліўных катлоў *укладка цёплай падлогі, зборка і падключэнне душавых кабінаў і інш.сантэхнікі*урэзка лічыльнікаў вады і цяпла *выкананне эл\газазварачных работ. Акажу дапамогу ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Хутка. Якасна. Гарантыя.** ІП Новік УНН391052765ад30. 03.2009г. **Тэл. 596-6501**(МТС)**, 483-45-03(В)**

***Усталяванне газавых катлоў любой вытворчасці (пад ключ).Мантаж сістэмы ацяплення і вадаправода поліпрапіленам і іншымі матэрыяламі. Сантэхнічныя работы любой складанасці. Зварачныя работы любой складанасці(газа\электразварка). Акажу дапамогу ў выбары і дастаўцы матэрыялаў.Хуткасць! Якасць! Гарантыя! Ліц.11170 ад 21.09. 1999г. Т.:713-61-94(МТС)***

**У Мінск і з Мінска.** Хутка, зручна! ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта № 3-32415 ад 12.17. 2007г да16.12. 2012. *Т.:8-033-646-21-99(МТС), 8-029-190-21-99(В)+3*

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр.** ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта № 3-32415 ад 12.17.2007гда16.12.2012. *Т.: 8-033-646-21-99(МТС), 8-029-1902199(В)+3*

Перавозка грузаў. Перавозка мэблі,камерцыйных тавараў, акон, дзвярэй, будаўнічых матэрыялаў, няспраўных аўто.Пагрузка-разгрузка. Працуем па ўсёй РБ. Пасв. №391072386 ІП Кішэня.Т.8029-296-94-27(мтс)+2

Эмаліроўка ваннаў і ўмывальнікаў. Тэл.: мтс 306-29-89; (02156) 2-63-71.ІП Пазняк М.М., УНП 391240879.

Катлы газавыя і на цвёрдым паліве. Зманцірую сістэму ацяплення. У наяўнасці неабходны матэрыял. Магазін «Газ-цяпло-вада». Пасв. 0183785 выд. Глыбоцкім РВК ад 24.02.09, ліц. 0283776. Т.:810-04-70(мтс)+7

Камфартабельныя пасажырскія перавозкі аўтамабілямі да 7 пасажырскіх месц (мінівэн). Прымаюцца індывідуальныя і калектыўныя заяўкі. Любыя напрамкі па РБ. Па цэнах дзяржаўных перавозчыкаў. Кожны дзень паездкі ў Полацк, Віцебск, Мінск па папярэднім запісе. Абслугоўванне калектыўных мерапрыемстваў (вяселлі і інш.). Ліц. № 02190/0625457 выд. ад 24.06. 2010г. №60-ЛІ да 24. 06.2015гТ.8-029-814-25-85*****

Сістэмы спадарожнікавага тэлебачання. Устаноўка, настройка. Пасв. №3903-331828 ад 27.04.2004г. Т.: 2-51-86, 512-51-86+21

Вопытны спецыяліст зробіць рамонт Вашага дома. Дапаможа ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Зробіць дэмантаж і мантаж даху. Пакладзе плітку, пакладзе ламінат, установіць МДФ і ПВХ-панэлі, вагонку, блок-хаўс, дэкаратыўны камень, ляпніну. Зробіць многаўзроўневыя складаныя паталкі, нішы, аркі і іншыя канструкцыі з гіпсакардону, а таксама многія іншыя віды апрацоўкі. Хутка і якасна. ІП Гінько Е.А. Ліц.№390453712 выд. 01.06.2007г. Т.: 895-58-32**

Усё для вонкавых і ўнутраных работ: сайдынг, пластык, гіпсакардон.Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў.Наяўны і безнаяўны разлік. Індывідуальны падыход да кожнага кліента.Гарантыя-.УНН391050790.Т.:716-46-47(мтс), 922-10-40(в)**

Рамонтна-аддзелачныя работы. Гіпсакардон любой складанасці па вашых чарцяжах. Плітка. Шпаклёўка паталкоў і сцен. Ламінат. Фасадныя работы любой складанасці. Дэкор фасада.-Сайдынг. Караед унутраны і вонкавы. Уцяпленне пенапластам, мінватай. Кладка блокаў на клей і раствор. Мантаж дахаў андулінам, металачарапіцай. Рамонт і аддзелка кватэр і дамоў пад ключ. Ліц.391071961 ІП Ліннік Д. Т.: +37529-717-29-41(мтс), +37544-747-15-94**

**Рамонт аўтамабіляў: развал-схаджэнне, зварка глушыцеляў, іншыя работы. ЧТУП «Сэрвісуніверсалторг». Т.: 8-033-336-28-11***

Вопытны спецыяліст зробіць рамонт у Вашым доме. Зробіць дэмантаж і мантаж даху.Пакладзе ламінад, ПВХ-панэлі, МДФ. Зробім многаўзроўневыя паталкі, аркі і таксама многа іншых работ.УНН 391051901. Т.:893-32-43*

Фота-і відэаздымка Вашых святаў. Т. 8-029 193-46-00 УНП 391241199 ІП Свяцкі А В.

Калі Вы вырашылі зрабіць рамонт кватэры, дома або будоўлю, добраўпарадкаванне ўчастка? Звяртайцеся, зробім! УНН 391051493 ад 30.09.08г Т.: 8-029-814-93-31(мтс), 8-033-647-97-36

Агенства «Жасмін» прапануе правядзенне дзіцячых святаў:дзень нараджэння, школьныя ранішнікі,дзіцячыя выпускныя (вясёлая праграма «Школа Winx», «Баль прынцэс», «Школа чараўнікоў», «Акадэмія шпіёнаў»,«Піраты» і многае іншае). Вашых дзяцей чакаюць цікавыя гульні, сувеніры, медалькі, дыпломы. Індывідуальны падыход да кожнага дзіцяці. Афармленне дзіцячых здымкаў у рамачкі, складанне фотаальбомаў, фотакніга аб Вашай сям'і, персанальныя казкі аб Вашых дзецях. Афармленне шарамі любога свята (гірлянды з шароў, сэрца для закаханых, фігуры з шароў). Пасв. №0183842 ад 13.04.09 УНН 391052872 ІП Галоўчыц В.В. Т.:8-033-697-61-66, 8-029-210-31-01 Вул.Энгельса,41,пакой 203.

## Шукаю працу:

Кантрольныя работы з рашэннем задач па бухгалтарскаму ўліку, тэорыі бухгалтарскага ўліку, АХД, эканомікі прадпрыемстваў,статыстыцы, педагогіцы. Выкананне ў агавораны тэрмін. Т.: 8-02144-2-58-65, 8-029-510-89-22(мтс)

Распілую дровы.Т.:213-21-18

Аздабленне дамоў, франтонаў сайдзінгам, пластыкам. Свае рыштаванні. Т.: 891-80-41(мтс)

Дзяўчына 20 год шукае работу прадаўца, бухгалтара. Тэрмінова, разгледжу любыя варыянты.Т.8-029-216-81-74

## Прапаную працу:

**Патрабуецца на работу трактарыст.Т.:514-21-76**

Патрабуецца прадавец у магазін«Лілія».Т.7168934(мтс)**

У прыватны прадуктовы магазін патрабуецца прадавец, пажадана з вопытам работы,абавязкова без шкодных звычак Т.: 8-029-211-27-11(мтс)*

Прыватнай фірме на пастаянную работу патрабуюцца прадаўцы,повары.Т.51003-87

Магазіну «Арбіта» у сувязі з павелічэннем штату патрабуюцца прадаўцы на пастаянную работу. Т.: 2-13-14

У магазін «Лагуна», вул. Садовая, патрабуюцца прадаўцы. Т.: 515-52-04(мтс)

Жанчына 20-30 гадоў для працы ў ФОТАцэнтры г.Глыбокае. Патрабаванні: камунікатыўнасць, акуратнасць, валоданне камп'ютарам. Тэл.: 8-029-552-63-52*

Прыватнаму прадпрыемству патрабуецца акуратны вадзіцель катэгорыі «В» з вопытам рамонту аўтамабіля.Тэл.:8-029-592-82-89(мтс)***

Патрабуецца прадавец на рынак (выязны гандаль, прадукты), добрая аплата працы. Т.: 512-82-23

Патрабуецца прадавец на рынак (выязны гандаль прадуктамі харчавання) адзін дзень у тыдзень (пятніцу), магчымы пераход на пастаянную працу. Т.: 814-18-62(мтс)*

Патрабуецца прадавец. Т.: 2-14-25,8-029-716-34-95(мтс)

Патрабуецца вадзіцель-грузчык кат. В, з\п 35000руб\дзень, рознарабочы,з\п30000-руб\дзеньТ.8-029-249-98-31***

Патрабуюцца рабочыя зрубіць зруб 6х6м. Т.: 8-029-295-65-42***

Патрабуюцца штукатуры са стажам для работы ў г. Глыбокае. Т.: 8-029-648-60-81(в)

Патрабуецца балансаздольны бухгалтар з вопытам работы. Дастойная аплата працы. Т.: 298-03-22(мтс)*

## Згуба:

Згубіўся кот (перс) чорны, у р-не вул. Школьнай. Просьба вярнуць за ўзнагароду. Т.: 2-18-00, 212-94-43*

Згублены дыплом на імя Цяліца Аляксандра Аляксеевіча просьба вярнуць. Т.: 2-40-19

Прапаў маленькі сабачка пікенэс, ц\карычневы з пухнатым хвастом. Просьба, хто бачыў або знайшоў, вярнуць за вялікую ўзнагароду. Т.: 894-15-16

Знойдзены ключы з чыпам на брэлку круглай формы. Т.: 8-029-197-01-11(в)

ПАМЯТНИКИ
Из натурального гранита (Карелия) и гранитной крошки
Собственное производство
Большой выбор форм
Быстро, качественно, доступные цены
Доставка, установка
тел. 8 (02156) 2-35-28; 519-25-27 (МТС); 962-61-62 (VEL)
Адрес: г. Глубокое, М. Горького, д. 24

Прадпрыемства "ВІТГРАН" Вырабляе па заказу насельніцтва і арганізацый
ПОМНІКІ
З натуральнага граніту (Карэлія) і гранітнай крошкі
Вялікі выбар форм і памераў
Выраб па індывідуальных заказах (граніт)
Якасна і даступна. Без перадаплаты.
Адрас: г. Глыбокае, вул. Леніна, 8 (уваход з двара пошты)
Час працы: з 9 да 17, Выхадныя: нядзеля, панядзелак.
Ліц. № 22150/1002159 ад 03.03.04. выд. Глыбоцкім РВК
Тэл.: 8-033-675-77-05

# Хто і навошта прыдумляе прыкметы

■ Дзіяна Петрасян

Відавочна, што за гэтым хвалебным заняткам не застанеш сталага мужчыну.

Вельмі заняты наш здабытчык і абаронца, каб марнаваць на выдумку каштоўныя хвіліны не занадта доўгага жыцця.

Таксама зразумела, што прыкметы не выдумляюць дзеці: свет і так належыць ім роўна ў той ступені, у якой дзеці гэтага жадаюць, таму ў іх проста няма патрэбы прывязвацца да знешніх падзей.

Думаецца, што не складаюць прымет і старыя: ці з іх мудрасцю не ведаць, што любая прымета сапраўдная толькі тады, калі пан загадаў ці цар прыказаў...

Адгэтуль лагічная выснова: прыметы прыдумляюць жанчыны для сябе, каханых, і пераконваюць мужчын, дзяцей і старых у тым, што гэта - векавая мудрасць продкаў.

І выконваюць створаныя прыкметы усёй дружнай сям'ёй.

**Прыкмета першая:** не дарый жаніху фатаграфію да вяселля, а то, маўляў, вяселле сарвецца, сурочаць ці порчу навядуць.

Насамрэч, прымета прыдумана нездарма.

А ну як пакажа жаніх фатаграфію сястры ці матулі, а тыя язык за зубамі не прытрымаюць, пару каментарыяў з нагоды знешнасці - вось і сумненні будучаму мужу. Глядзіш, ад вяселля і следу не засталося...

**Прыкмета другая:** замуж трэба выходзіць у старым абутку.

Маўляў, тады сямейнае жыццё будзе мірным ды спакойным.Можа, і залежыць ад абутку неяк далейшае сямейнае жыццё (навуцы гэта невядома), аднак тыя, хто калі-небудзь праводзіў два дні ў новых, толькі што набытых мадэльных туфліках, пагодзяцца са мной, што прымета гэта самая што ні на ёсць карысная.

**Прыкмета трэцяя**: не распавядай нікому пра цяжарнасць. Уракуць.

Урачы, напэўна, усёткі не ўракуць, няма такога паняцця ні ў адной з сучасных абласцей чалавечых ведаў, але што роспытамі дастануць і ў выпадку добрага зыходу справы, і ў выпадку медыцынскіх праблем - без сумневу.

Так што выкананне гэтай прыметы карысна і самой цяжарнай і яе блізкаму асяроддзю.

**Прыкмета чацвёртая:** цяжарным нельга вязаць і шыць, інакш зацэпца пупавіна.

Вядома, каб мама і свякроў адвязаліся ад маладой жонкі з пажаданнямі нашыць і навязаць пасагу немаўляці, трэба было прыдумаць што-небудзь вельмі ўжо страшнае.

Вось і прыдумалі прыкметы адна за адну страшнейшыя: і пупавіну завітую, і дзіцяці мёртвага, і памяць адбітую.

Можа, прыдумванне прыкмет і дурны занятак, што грэбуюць ім і мужчыны, і дзеці, і старыя, затое дзейсны.

# Вялікі пост: як не нашкодзіць здароўю



**Каб не прыпадобіцца герою народнай прыказкі, які разбіў сабе лоб падчас малітвы, варта памятаць: не ўсякаму , хто посціцца, аднолькавы пост.**

■ Аляксандра Аляшкевіч

Калі разглядаць толькі "спажыўны" бок паста, сур'ёзныя абмежаванні ў ежы не ўсім прынясуць карысць, а некаторым могуць і нашкодзіць. Так што паспрабуйце не дапускаць распаўсюджаных памылак.

**Памылка першая:** з агню ды ў полымя. Рэзка пачынаць пасціцца нельга.

Святары раяць пачаткоўцам "вызначыць уласную меру аскетызму", таму што катэгарычная адмова ад звыклага сілкавання пагражае абвастрэннем хранічных захворванняў, пагаршэннем самаадчування, непаладкамі ў нервовай сістэме.

Такія пабочныя эфекты ад Вялікага Паста нікому насамрэч не патрэбныя: ні вам, ні царкве, ні Богу.

**Памылка другая:** празмернае чэравоугодніцтва. Часта бывае, што, пазбавіўшыся звыклых сытных прадуктаў, чалавек пачынае "не ў сябе" наварочваць агароднінную, фруктовую і раслінную смакату, якую гатуе добрая хатняя гаспадыня.

Пост - гэта час самаабмежавання ва ўсім, а не асаблівасці меню, так што не паддавайцеся граху, калі ўжо ўзяліся пасціцца.

**Памылка трэцяя:** капусны ліст ды вада. А вось замыкацца на адных і тых жа прадуктах у пост таксама не трэба. У царквы няма задачы да канца Вялікага Паста атрымаць пакорлівую паству з цынгой і хранічным авітамінозам.

У тыя дні, калі гэта дазволена, ешце абавязкова рыбу, дарэчы, марскія гады (такім крыўдным словазлучэннем завуцца, напрыклад, кальмары) наогул не забаронены ні ў адзін з дзён.

Мёд, арэхі, садавіна, гародніна ў сваім багацці і разнастайнасці на стале павінны быць абавязкова, а гэтак жа фасоль, гарох і грыбы - менавіта гэтыя прадукты насыцяць арганізм раслінным бялком у адсутнасць бялку жывёлы.

**Памылка чацвёртая:** вось пост скончыцца, і я.... Як наемся каўбасы і адбіўных!!!!

Такая цалкам нармальная пазіцыя багатая самымі рознымі ўскладненнямі аж да прыступу панкрэатыту.

З паста варта выходзіць паступова, патроху дадаючы ў рацыён прадукты.

**Памылка пятая:** не пасціцца - вялікі грэх. Ёсць цэлы спіс тых, каму царква афіцыйна дазваляе не пасціцца: гэта цяжарныя і жанчыны, якія кормяць, дзеці да 14 гадоў, працаўнікі, занятыя цяжкай фізічнай працай, а таксама тыя, хто ў дарозе.

Тыя, хто пражыве Вялікі Пост беспамылкова, цалкам могуць нацешыцца радасцю пакоры, вышынямі аскетызму і пладамі духоўнай працы над сабой.

І пры гэтым не разбіць сабе лоб з-за залішняй стараннасці.

# Метэазалежнасць: што выратуе ад галаўнога болю

**Яшчэ нейкіх дваццаць-трыццаць гадоў назад мала хто тлумачыў сваё дрэннае самаадчуванне і настрой атмасферным ціскам, вільготнасцю і тэмпературай паветра, цыклонамі, антыцыклонамі і выбліскамі на Сонцы. Сёння мы ўважліва вывучаем календары магнітных бур, рыхтуем танометры і запасаемся лекамі ад галаўнога болю.**

Метэапатыя: хто ад яе пакутуе і ці можна не залежаць ад капрызаў надвор'я?

**Весткі з атмасферных франтоў**

Мільёны людзей чакаюць зводак метэаролагаў як вестак з фронта. Што і калі можа быць патэнцыйна небяспечным для нашага самаадчування?

Больш камфортна мы адчуваем сябе пры атмасферным ціску прыкладна ў 750 мм ртутнага слупка. Адхіленні ў 10-15 дзяленняў у бок павышэння ці паніжэнні могуць пагоршыць самаадчуванне.

**Вобласці паніжанага ціску - цыклоны** - прыносяць з сабой воблачнасць і дажджы. Цыклоны небяспечныя для людзей з паніжаным артэрыяльным ціскам: гіпатонікам, для тых, хто пакутуе на сардэчныя захворванні, мігрэні, хваробы дыхальных шляхоў. У паветры мала кіслароду, таму адчуваецца слабасць, галавакружэнне, недахоп паветра, жаданне няспынна пазяхаць.

**Што рабіць.** Каб пазбавіцца ад гэтых непрыемных сімптомаў, трэба павялічыць ціск. Кава, моцны свежазавараны чай, бакал партвейну - не больш за 100 грамаў у дзень - правераныя сродкі. Аднак імі лепш не злоўжываць. Часта бывае дастатковым піць крыху больш чыстай вады. Добры сродак - настойка жэньшэню. Яе прымаюць на працягу двух тыдняў 3 разы ў дзень па 15-20 капель. Абавязкова трэба высыпацца. А яшчэ вельмі карысным будзе кантрасны душ. Але самае галоўнае - своечасова звярнуцца да ўрача і не прымаць бескантрольна медыцынскія прэпараты.

**Вобласці падвышанага ціску - антыцыклоны** - доўгачаканыя, таму што нясуць з сабой яснае зацішнае надвор'е з роўнай тэмпературай. Аднак і тут не ўсё гладка. У гэты перыяд у групу рызыкі трапляюць гіпертонікі - людзі, чый артэрыяльны ціск павышаны. Да іх далучаюцца астматыкі і алергікі, людзі з захворваннямі суставаў.

Характэрныя скаргі - млявасць, падаўлены стан, дэпрэсія, млоснасць, мільганне "мушак" перад вачамі. Вельмі часта - галаўныя болі і болі ў вобласці сэрца. На гэтым фоне дае збоі імунітэт. Але галоўная небяспека гіпертаніі ў тым, што гэтыя сімптомы выяўляюцца не заўсёды, і чалавек проста не заўважае, што ў яго павялічыўся ціск.

**Што рабіць.** Павышаны ціск - гэта падвойная нагрузка на арганізм. Тут гэтак жа, як і пры гіпатаніі, паказаны кантрасны душ і зберагальная гімнастыка - зразумела, не ў перыяд крызу. З прадуктаў аддайце перавагу садавіне і гародніне, якія багатыя на калій- напрыклад, бананам і разынкам. І ў любым выпадку не адкладайце візіт да ўрача, асабліва калі павялічваецца ўнутрычарапны ціск.

Усе пералічаныя меры добра падыходзяць у якасці прафілактыкі. Але калі ўсё ж узнікаюць праблемы з ціскам, лепш не займацца самалячэннем, а звярнуцца да ўрача.

# Чаму п'яным мужчынам падабаюцца ўсе жанчыны

**Брытанскія навукоўцы высветлілі, чаму нецвярозым мужчынам падабаюцца ўсе жанчыны без выключэння.**

Група навукоўцаў з Лондана правяла эксперымент з удзелам 64 п'яных і цвярозых студэнтаў. Як паведамляе Discovery News, аказалася, што пад уздзеяннем алкаголю мужчыны губляюць здольнасць адрозніваць сіметрычныя, а знашчыць, больш сімпатычныя жаночыя твары ад асіметрычных, менш прывабных.

Навукоўцы паказалі абедзвюм групам студэнтаў фатаграфіі дзяўчат з сіметрычнымі і асіметрычнымі рысамі твару і папрасілі ўдзельнікаў даследавання абраць самых прывабных.

Цвярозыя студэнты былі больш пераборлівымі, яны выбіралі сімпатычных, з правільнымі рысамі твару, а п'яныя казалі, што ім падабаюцца і ўладальніцы менш сіметрычных знешніх дадзеных.

Навукоўцы таксама высветлілі, што, нягледзячы на страту здольнасці адрозніваць сімпатычных жанчын ад менш прывабных пад уздзеяннем алкаголю, мужчыны ўсё ж застаюцца больш уважлівымі да знешнасці прадстаўніц процілеглага полу, чым нецвярозыя жанчыны.

## ІМЯНІНЫ

**17 сакавіка**
**Пр.:** Ульяны, Васіля, Вячаслава, Герасіма, Данілы, Паўла, Рыгора, Якава.
**К.:** Гертруды, Рэгіны, Збігнева, Патрыка, Яна.

**18 сакавіка**
**Пр.:** Іраіды, Андрыяна, Анісія, Давыда, Івана, Канстанціна, Марка, Фёдара, Яўлампія.
**К.:** Фаіны, Кірылы, Эдуарда.

**19 сакавіка**
**Пр.:** Аркадзя, Канстанціна, Конана, Фёдара.
**К.:** Багдана, Марка, Юзафа.

**20 сакавіка**
**Пр.:** Марыі, Матроны, Васіля, Емяльяна, Капітона, Мікалая, Паўла, Яўгена
**К.:** Аляксандры, Клаўдзіі, Святланы, Анатоля, Вінцэнта.

**21 сакавіка**
**Пр.:** Апанаса, Арсенія, Лазара.
**К.:** Бенядзікта, Любаміра, Мікалая.

**22 сакавіка**
**Пр**.: Наталлі, Валерыя, Дзмітрыя, Івана, Ільі, Мікалая, Пятра, Рыгора, Сяргея.
.**К.:** Катарыны, Багуслава, Захарыя, Паўла, Казіміра.

**23 сакавіка**
**Пр.:** Васілісы, Галіны, Настассі, Віктара, Дзяніса, Кандрата, Леаніда, Серафіма.
**К.:**Пелагеі, Конрада, Фелікса.

## Гарачая лінія

**У рэдакцыю “ВГ” звярнуліся жыхары вул. 30 гадоў Перамогі г. Глыбокае. Восенню 2009г. па ёй нарэшце (вуліцы 35 год ) быў пракладзены водаправод. Але радавацца доўга не прыйшлося, бо ў першую зіму сістэма не вытрымала выпрабаванняў халадамі і замерзла.**

Палічылі, што зямля неўтрамбаваная, таму недзе прыхапіла марозам, тым больш, што снегу было не так багата.Калі ж і напрыканцы сёлетняй зімы сітуацыя паўтарылася, гэта, натуральна, пачало ўжо раздражняць: “А каму патрэбна зімой вада? “Водаканал” думае, што нікому. Правёўшы ў свае дамы ваду, мы не можам ёй карыстацца. Мы і газ падвялі, і пакуплялі пральныя машыны-аўтамат, а вады няма... Дык можа, трэба было браць напракат на той перыяд, пакуль вада не замерзне? Хоць у назве вуліцы слова “Перамога”, але ж вайна прадаўжаецца да гэтага часу, толькі не зразумела, з кім або з чым”. За тлумачэннямі “ВГ” звярнулася да майстра ўчастка ВКГ Новіка А.І.

–Сітуацыя, якая склалася на гэтай вуліцы, безумоўна, непрыемная. І калі ў мінулую зіму падмярзанне водапровода можна было сапраўды растлумачыць неспрыяльнымі ўмовамі надвор’я пры яго пракладцы, то сёлетняя зіма паказала, што самі прыватнікі наўрад ці дакладна выконвалі тэхнічныя ўмовы пры пракладцы трубы да сваёй хаты– глыбіня не менш за 1.8м– маўляў, што такое 20-30см? Суседзяў кантраляваць няёмка, вось і атрымалася, што ў аднаго труба на глыбіні 2 метры, у другога–1.4м, трэцяму капаў “траншэйнік”- на1.2м. Адпаведна і перамярзае вада ў трубе, размешчанай на меншай глыбіні, потым у суседзяў, затым у каналізацыйным калодзежы і цэнтральнай трубе. Усіх папярэджвалі, каб пад час адлігі, калі мароз ідзе ў зямлю, на ноч астаўлялі маленькі струменьчык вады з-пад крана, каб папярэдзіць замярзанне. “Водаканал” пракладваў цэнтральную трубу належнага дыяметра і на належнай глыбіні. Выйсце з гэтай сітуацыі– закальцоўванне з в. М. Казея, што ВКГ і зробіць у першую чаргу. А пакуль будзем спадзявацца на пацяпленне і чакаць натуральнага размарожвання.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Небольшой невод | Осадочная горная порода | | | | | | | Доля, часть, норма |
| | | | | Рыба семейства лососей | | Вокальное искусство | | Сорт твердой копченой колбасы | |
| | Китайская конопля | Персонаж "Мертвых душ" | | | | | | | |
| | | | | Стеганый полукафтан у татар | | Государство в Европе | | Протока между озерами | |
| | Шуба с мехом внутрь и наружу | | ... Насреддин | | | | | | |
| | | | | | Легкая повозка | | | | |
| | Точка небесной сферы | | Буква древнерусского алфавита | | | | Денежный штраф в Древней Руси | | Народ в Азии |
| Пища | | | | | Группа дисциплин | | | | |
| Капитуляция | | Давать ... | Песня с видеоиллюстрацией | | | | | Город в Бельгии | |
| | | | | | Бремя, тяжесть, иго | | | | |

**Ответы на сканворд №10**

**По горизонтали:** Лесха. Урду. Криптон. Роба. Эталон. Навес. Галс. Тол. Юнкер. Аста. Азот. Юнг. Факт. Кабо. Оро. Ай. Нанаец. **По вертикали:** Гудрон. Лука. Свист. Аттила. Ренонс. Бивак. Эстрагон. Аглаофон. Олот. Нанка. Стара. Акт. Гай. Кое.

# ГАРАСКОП
## на новы тыдзень



**АВЕН.** З пачатку тыдня вас чакае дадатковая нагрузка на працы. Набярыцеся цярпення і няўхільна імкніцеся да мэты. Калі арганізуеце не толькі сваё жыццё, але і жыццё тых, хто побач, зможаце дасягнуць шматлікага. Зараз спрыяльны час для новых распачынанняў. Ваш аўтарытэт па-за канкурэнцыяй як у коле блізкіх людзей, так і сярод калегаў. У канцы тыдня лепш праявіць сціпласць і адпачыць ад ролі лідара. Кантакты і сустрэчы варта звесці да мінімуму.



**ЦЯЛЕЦ.** Пачатак тыдня багаты на эмоцыі. Заводзьце карысныя знаёмствы і актыўна пашырайце бізнес. Цяляты– майстры абыходзіць вострыя куты, але канфліктаў з калегамі ўсё-ткі не пазбегнуць. Не расказвайце нікому пра свае планы. У сярэдзіне тыдня вас чакаюць прыемныя сустрэчы і неспадзеўкі. Рызыкоўныя гульні і латарэі абяцаюць вам поспех. Сям'я будзе чакаць ад вас рашэння праблем і грашовых уліванняў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Напачатку тыдня пазбягайце любой рызыкі, гэта можа прывесці да непажаданых наступстваў, што не ў вашых інтарэсах. Пакуль лепш задаволіцца тым, што маеце. Не бойцеся высвятляць адносіны, варта расставіць кропкі над "і". У сярэдзіне тыдня ў патрэбны момант калегі дапамогуць. Асцярожна траццце грошы і не давярайце нікому дакументы. Выхадныя правядзіце са сваякамі і каханымі.



**РАК.** Пачатак тыдня будзе напружаным, прыйдзецца пазмагацца за шчасце. Можна складаць дамовы, толькі добра вывучайце фінансавы бок праектаў. Усё вырашыцца ўдала, калі не перакладаць свае абавязкі на кагосьці. У сярэдзіне тыдня трэба вырашаць сямейныя праблемы, прысвяціце сябе хатнім справам, наведайце сваякоў, бацькоў. Падбіце вынікі, выпраўце памылкі, але не перастамляйцеся. Перш чым рабіць цвёрдыя высновы, падумайце пра наступствы.



**ЛЕЎ.** Калі Леў апынуўся на грані выбару, настае момант для адважных рашэнняў, бо ён гатовы на любыя подзвігі. Застаецца толькі правільна размеркаваць сілы і магчымасці. Наперадзе - павышэнне ў пасадзе ці змена працы. Апраўдаюцца фінансавыя рызыкі. Сярэдзіна тыдня - спрыяльны час для добрых спраў. У пятніцу магчымыя канфлікты з начальствам. У гэты ж дзень важна харчавацца правільна, паколькі існуе пагроза атручванняў.



**ПАННА.** Настае перыяд, калі немагчыма адмовіцца ад выгодных прапаноў. Фінансавыя паступленні не будуць вялікімі, але наперадзе ўжо прабіваецца яркае святло. У другой палове тыдня зможаце наладзіць кантакты з партнёрамі. Атрымаецца скласці дамовы, пра якія даўно марылі і ад якіх вы чакаеце істотнага прыбытку. Для дасягнення пастаўленых мэт прыйдзецца шмат папрацаваць. У пятніцу лепш заняцца хатнімі клопатамі. У выхадныя захочацца цішыні і адзіноты.



**ШАЛІ.** Вы перапоўнены натхненнем і гатовыя перакроіць не толькі сваё жыццё, але і чужое. Аднак падзеі пачнуць разгортвацца не зусім так, як хочацца. Магчымыя канфлікты на працы. Не навязвайце іншым сваю волю. У канцы тыдня вы рызыкуеце папакутаваць з-за ўласнай упартасці. Новыя знаёмствы будуць карыснымі для вас. Чакайце прыемных навін.



**СКАРПІЁН.** Настае час выпрабаванняў на трываласць. У канцы тыдня адчуеце, што грошай замала. Справы будуць прасоўвацца больш павольна, чым вы разлічвалі. Калі не пачынаць новых праектаў, то і чакаць выніку не варта. Наадварот, трэба праявіць ініцыятыву, узяць на сябе адказнасць. Адносна вас павялічацца патрабаванні: вас загрузяць службовымі пытаннямі ці сваякі будуць патрабаваць рашэння іх праблем. Надайце больш увагі блізкім.



**СТРАЛЕЦ.** Тыдзень Стральцам дастаўся досыць складаны; прыйдзецца хутка вырашаць спрэчныя пытанні і заканчваць справы, якія назапасіліся. Стральцы з запалам возьмуцца за чужыя праблемы, што будзе памылкай, бо калі штосьці не будзе выходзіць, віна ляжа на прадстаўнікоў знака. Магчыма абвастрэнне хранічных хвароб. А вось адносна фінансаў не варта турбавацца, гэтыя праблемы вырашацца. У канцы тыдня ажыццявяцца прыемныя паездкі і знаёмствы.



**КАЗЯРОГ.** Чакаецца няпросты тыдзень. Казярогі апынуцца ў цэнтры падзей. Магчымы новыя ўражанні і паездкі. Вас завабяць у высвятленне складаных адносін. Не варта адкрываць перад староннімі планы, можна стаць ахвярай інтрыг і плётак. Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі і трымайцеся далей ад начальства. З фінансамі то густа, то пуста - шукайце дадатковых заробкаў. Ад вашага рашэння будзе залежаць свет і супакой у сям'і.



**ВАДАЛЕЙ.** Напачатку тыдня Вадалеяў чакаюць працоўныя абавязкі. Рэалізаваць адважныя планы будзе няпроста, але павінна адкрыцца другое дыханне. Дзякуючы здольнасцям і рашучасці, дасягняце істотных поспехаў. Можна прымаць нечаканыя рашэнні, рызыкаваць. Прыцягніце на свой бок калегаў і старых сяброў. А вось у асабістыя справы іншых членаў сям'і ўмешваць не варта, будзе лепш, калі дапаможаце матэрыяльна. Уік-энд абяцае цікавыя, прыемныя сустрэчы.



**РЫБЫ.** Вы здолееце даказаць, што і адзін у поле воін. Каб дасягнуць выніку, прыйдзецца дзейнічаць насуперак агульнаму меркаванню. Сярод вашых знаёмых ёсць ворагі, але іх цяжка выявіць. Каб пазбегнуць непрыемнасцяў, правярайце кожны свой крок. Пры гэтым абыходзьце вострыя куты, не дазваляйце думаць пра сябе дрэнна. У другой палове тыдня магчымыя фінансавыя паступленні. Дзякуючы прывабнасці, атрымаецца дасягнуць пазітыўных вынікаў.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 15. 03. 2011года ў 21 05

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар : Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 1040

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на “Вольнае Глыбокае” абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

